© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

№ 7 (9) Жнівень 1994 August Год выд. 2

# ПРЭЗЫДЭНТ А. ЛУКАШЭНКА ВЫСТУПІЎ НА СЭСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ БЕЛАРУСІ...

## ВОСЬ НЕКАТОРЫЯ ВЫТРЫМКІ З ЯГОНАЕ ПРАМОВЫ...

"Народная Газэта"

Дарагія суайчыннікі, паважаныя дэпутаты і замежныя госці!

Мой зварот да беларускага народа выкліканы трывогай за лёс нашай дзяржавы і яе грамадзян. Не хачу драматызаваць сітуацыю, аднак становішча ў эканоміцы наблізілася да катастрафічнай рысы, за якой паўстае пытанне аб выжывальнасці нацыі.

Кожны просты чалавек ведае, якая спадчына нам дасталася. Шалёны, па-іншаму не скажаш, рост цэн — 3000 разоў за апошнія тры гады, масавыя прастоі прадпрыемстваў, разгул злачыннасці і карупцыі давялі чалавека да адчаю: няма яснасці, якое грамадства мы будуем; ці будзе работа тым, хто яе мае сёння, і тым, хто ўпершыню ўступае ў працоўнае жыццё; ці будзе абароненна старасць; ці будзе магчымасць мець дах над галавой? Усенародна выбраны Прэзідэнт, і, упэўнены, кожны грамадзянін задаюць адно і тое ж пытанне: што рабіць?

Трэба без панікі ацаніць цяперашнюю эканамічную сітуацыю і рашуча пайсці на правядзенне ў кароткія тэрміны жорсткіх мер па вываду рэспублікі з вельмі глыбокага крызісу. Сёння іншага не дадзена. Каб рухацца наперад, стварыць эканамічна багатае грамадства, нам неабходны народны давер і цвёрдая палітычная воля, працавітасць і любоў да Айчыны. Усё гэта ў нас ёсць. Прашу толькі аднаго — цярпення і разумення таго, што няма і не можа быць лёгкага выхаду з той сітуацыі, у якой сёння апынулася наша краіна...

Падаражанню харчовых тавараў садзейнічае мноства гандлёвых пасрэднікаў. На жаль, яны ў апошні час растуць як грыбы. Перш за ўсё за кошт камерсантаў і іншых прадпрыемстваў. У выніку чаго ўстаноўленая для дзяржгандлю гранічная гандлёвая надбаўка ў размеры 30 працэнтаў іншы раз дасягае 70. А ёсць факты, калі яна дасягае 400 працэнтаў. Дзяржгандаль — галіна, якая павінна рэгулявацца і кіравацца намі, урадам. Гэта дзяржаўны сектар. Трэба канчаць з гэтай уседазволенасцю і наводзіць тут парадак. Мы маем намер гэтым займацца.

Крызісны стан эканомікі адбіўся і на ІНВЕСТЫЦЫЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ. За апошнія два гады аб'ём вытворчых інвестыцый знізіўся на 47 працэнтаў. І, што цікава, — нават пры гэтых нязначных аб'ёмах капітальных укладанняў сярэдняя працягласць будаўніцтва ў 1993 годзе была ў паўтара раза вышэй за нарматыўную, а звыш 2 тысяч аб'ектаў наогул законсерваваны. Хто ініцыіраваў тыя ці іншыя будоўлі, а потым імі не займаўся? Чаму змярцвелі рэсурсы? Не буду працягваць пытанні. Ясна, што ў гэтай сферы прыйдзецца грунтоўна разбірацца...

У стане вельмі вострага крызісу знаходзіцца ФІНАНСАВАЯ СІСТЭМА краіны, разбураны фінансы прадпрыемстваў. Як вынік, прадпрыемствы рэспублікі адчуваюць востры недахват плацежных сродкаў, выкліканы перш за ўсё нізкім узроўнем кіравання эканомікай, ростам выдаткаў вытворчасці, накладных расходаў, зніжэннем прадукцыйнасці працы, адцягненнем вялікіх абаротных сродкаў у рэшткі гатовай прадукцыі. Шэраг кіраўнікоў, замест арганізацыі работы па зніжэнню выдаткаў вытворчасці, бачаць вытокі крызісу толькі ў знешніх прычынах, а не ва ўласнай бяздзейнасці. Замест пошукаў рынкаў збыту прадукцыі і спагнання даўгоў яны ўсе намаганні накіроўваюць на выбіванне льготных незваротных крэдытаў і падатковых ільгот.

Працягвае нарастаць знешняя і ўнутраная запазычанасць дзяржавы. Да канца 1994 года памер знешняга доўгу складзе 2,3 млрд. долараў ЗША ці павялічыцца за апошнія два гады амаль у 6 разоў. А гэта 220 долараў на кожнага жыхара рэспублікі і на дзіця таксама. Унутраны доўг рэспублікі ў бягучым годзе нават пры ўмове правядзення жорсткай эканоміі ўзрасце не менш чым у 10 разоў. Такія тэмпы росту знешняй і ўнутранай запазычанасці недапушчальныя. Яны набліжаюць краіну да парога эканамічнай і палітычнай бяспекі...

Фактарам прамога разбурэння дзяржбюджэту сталі непасільныя датацыі на харчовыя тавары, жыллёва-камунальныя і транспартныя паслугі, энергію. У выпадку захавання існуючага парадку датавання гэтых таварных груп на другое паўгоддзе бягучага года спатрэбіцца дадаткова больш за 26 трлн. рублёў, у тым ліку: за электраэнергію — 16,0 трлн., хлебабулачныя вырабы — 3,0, малако — 2,8, жыллёва-камунальную гаспадарку — 2,4 трлн. рублёў. Гэтых сродкаў у бюджэце няма, і такой разбуральнай палітыкі дзяржава проста не вытрымае. Адсюль вынікае непазбежнасць прыняцця мер па скарачэнню датацый. Мяркуйце самі, дадатковыя расходы на кампенсацыю розніц у цэнах толькі па прадуктах харчавання ў другім паўгоддзі гэтага года складуць амаль 6 трлн. рублёў. Атрымліваецца абсурдная сітуацыя. Спачатку дзяржава высокімі і шматлікімі падаткамі абкладае прадпрыемствы і грамадзян, стварае гэтым самым датацыйны фонд, за кошт якога падтрымлівае неапраўдана нізкія цэны. Потым гэтыя тавары па нізкіх цэнах скупляюцца, у тым ліку далёка не беднымі людзьмі. Што, яны не могуць купіць хлеб і малако па рэальнай цане? Могуць. Яшчэ горш, што цэны мы датуем за кошт усяго насельніцтва, у тым ліку і беднай яго часткі, а выгады часта атрымліваюць спекулянты ўсіх масцей, якія вывозяць, перапрадаюць і нажываюцца на гэтым. Урад ужо спрабаваў закрыць граніцы адміністрацыйна, але не атрымліваецца і не атрымаецца. Таму будзе лепш, калі гэтыя грошы, якія ідуць на датацыю прадуктаў харчавання, аддаць малазабяспечаным пенсіянерам, інвалідам, студэнтам. Тады знікне глеба для злоўжыванняў, чалавек сам будзе распараджацца сваімі сродкамі. Я спадзяюся, што народ зразумее такі падыход...

Дарэчы, ведаю, што асноўныя прэтэндэнты і мае былыя канкурэнты на прэзідэнцкую пасаду ўсе да адзінага запісалі ў свае праграмы гэта палажэнне. Запрашаю ўсіх вас падключыцца да гэтай барацьбы. Давайце адкінем усякія амбіцыі і наша ідэалагічнае неўспрыманне, у тым ліку і псіхалагічнае, адзін аднаго. Давайце коранем узаемаадносін, крытэрыем нашых узаемаадносін зробім гэту праблему. Думаю, што мы знойдзем тут разуменне і з Зянонам Пазняком, і са Станіславам Шушкевічам, і з Васілём Новікавым, і з Дубко, і з Вамі, Вячаслаў Францавіч...

Асабліва хачу звярнуцца да кіраўнікоў прадпрыемстваў. Не думайце, што сваю ўласную бяздзейнасць вы зможаце перакласці на плечы дзяржавы, працоўнага калектыву, ды і ўсяго народа. Спыніўшы вытворчасць і адправіўшы работнікаў у водпускі, кіраўнікі многіх прадпрыемстваў чакаюць спрыяльнай кан'юнктуры на рынку ці дапамогі з боку дзяржавы. Гэтыя чаканні дарэмныя, яны ўскладняюць сітуацыю, заганяюць хваробу ўнутр, зацягваецца выхад з крызісу. Хопіць чакаць, трэба пачынаць працаваць!..

Тут хачу асоба падкрэсліць — ніякага вяртання да камандна-адміністрацыйных метадаў кіравання эканомікай не будзе. Стымуляванне развіцця народнай гаспадаркі будзе весціся эканамічнымі метадамі з безумоўнымі гарантыямі абароны права ўласнасці...

Я абяцаю народу Беларусі, што Прэзідэнт і ўрад не зробяць ніводнага непралічанага і несумленнага кроку ў адносінах да людзей. Больш таго, па ўсіх гэтых вострых пытаннях мы абавязкова будзем з вамі раіцца.

Пры ўдакладненні бюджэту будуць скарочаны расходы на ўтрыманне дзяржаўнага апарату ад раённага да рэспубліканскага ўзроўню. Гэты працэс пачаты ўжо ва ўрадзе. Мы разумеем, што бедны, абяздолены народ не можа ўтрымліваць такую армію чыноўнікаў.

Адыходзячы ад асноўнага тэксту даклада, ведаючы аб тым, што тут прысутнічаюць усе старшыні абласных Саветаў, старшыні раённых гарадскіх Саветаў, прашу не чакаць цыркуляраў і указанняў ад Прэзідэнта і ўрада, а пачаць гэты працэс ужо цяпер. Вы павінны помніць маё передвыбарнае абяцанне: да 1 студзеня істотна скараціць дзяржаўны апарат кіравання, дзяржаўных чыноўнікаў прыкладна напалавіну. Прашу пачаць дзейнічаць у гэтым напрамку неадкладна. Пры ўдакладненні бюджэту гэта мы з 1 студзеня ўлічым, і вельмі жорстка...

Неабходна як мага хутчэй накіраваць у цывілізаваны напрамак ПРАЦЭС ПРЫВАТЫЗАЦЫІ.

Мы не дапусцім стыхійнай прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці. Нельга зрабіць народны здабытак крыніцай абагачэння спрытнякоў і карумпіраваных элементаў. Прыватызацыя павінна быць не самамэтай, а сродкам паляпшэння дзейнасці прадпрыемстваў. Толькі пераканаўшыся, што прыватызаванае прадпрыемства можа працаваць лепш, чым дзяржаўнае, трэба прымаць рашэнне аб прыватызацыі. Мы зробім так, каб прыватызацыя праходзіла публічна, пад кантролем грамадскасці. Не прынятая народам "абвальная" прыватызацыя будзе спынена...

Мы разам з Вярхоўным Саветам канкрэтызуем ЗНЕШНЮЮ ПАЛІТЫКУ нашай дзяржавы. Жыццёва важна ўмацоўваць супрацоўніцтва з Расіяй, краінамі СНД. Я з'яўляюся паслядоўным прыхільнікам эканамічнага супрацоўніцтва і з усімі іншымі краінамі, зняцця штучных бар'ераў у гандлі, пераарыентацыі знешнеэканамічнай і знешнепалітычнай дзейнасці з будаўніцтва "суверэнных агароджаў" да адкрытага ўзаемадзеяння з сусветнай супольнасцю. Неабходна ўжо ў бліжэйшы час пачаць распрацоўку комплекснага шырокамаштабнага дагавора аб даўгачасным супрацоўніцтве з Расіяй замест заключэння непрацуючых дэкларатыўных пагадненняў.

З-за непаслядоўнасці ў ажыццяўленні эканамічных пераўтварэнняў ускладніліся нашы адносіны з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, перш за ўсё з Міжнародным валютным фондам. Рэальнасць такая, што толькі гэты фонд можа даць зялёнае святло паступленням заходніх інвестыцый і крэдытаў у эканоміку Беларусі. Таму нам неабходна ўжо ў бліжэйшыя тыдні вырашыць гэту праблему і ўзгадніць з фондам праграму рыначных пераўтварэнняў на бліжэйшую перспектыву, але абавязкова з улікам дзяржаўных інтарэсаў нашага народа.

Дарагія суайчыннікі! Паважаныя дэпутаты!

У сваім выступленні я закрануў толькі некаторыя, на мой погляд, важныя і складаныя праблемы нашай эканомікі. Карціна, як бачыце, сумная. Аднак гэта тая рэальная кропка адліку, з якой мы павінны пачаць новы этап нашай гісторыі. Па ключавых пытаннях я выказаў сваю пазіцыю, можа, жорстка, але без навядзення дысцыпліны і павышэння адказнасці нам проста не абысціся...

Выказваю надзею, што ў інтарэсах народа і працвітання нашай Радзімы мы дасягнём згоды з рознымі палітычнымі сіламі.

Я з удзячнасцю прыму прапановы і буду супрацоўнічаць з грамадскімі арганізацыямі, партыямі і рухамі, спецыялістамі, калі іх намаганні будуць накіраваны не на дасягненне кан'юнктурных мэт, а на карысць беларускага народа...

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі

Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, зь якімі рэдакцыя не згаджаецца.

# Дзень, які праверыў усе прагнозы

"Народная Газэта"

**Мікалай ГАЛКО**

Канешне, задаваць зараз Прэзідэнту пытанні, накшталт таго, як ідуць справы, бессэнсоўна. Узваліўшы на плечы цяжар дзяржаўных праблем, Аляксандр Лукашэнка напружвае мускулы, каб вырашаць тое, што паабяцаў людзям. І ўсё ж, сустрэўшыся з Прэзідэнтам за некалькі хвілін да пачатку сесіі, хутчэй інстынктыўна, чым прафесійна, спытаў пра ход гэтых самых спраў.

— Сёння будзе вельмі цяжкі дзень, — сказаў Аляксандр Рыгоравіч.

Няцяжка здагадацца, што ён меў на ўвазе. Колькі задавалі яму пытанняў пра ўзаемаадносіны з Вярхоўным Саветам, колькі спісана шарыкавых ручак у пошуках варыянтаў, хто стане гаспадаром таго альбо іншага дзяржаўнага крэсла. І вось настаў той дзень, калі вызначыцца якасць усіх прагнозаў.

Пасля даклада аб становішчы ў краіне, з поўным тэкстам якога чытачы могуць азнаёміцца, Прэзідэнт Лукашэнка яшчэ раз спусціўся на трыбуну, каб абвясціць дэпутатам, з кім ён хоча выконваць свой цяжкі абавязак. Аляксандр Рыгоравіч яшчэ раз нагадаў, што галоўным крытэрыем пры фарміраванні каманды была ступень прафесіяналізму.

Ва ўласцівай прамой манеры Прэзідэнт сфармуляваў чатыры прынцыпы, якія сталі асновай падбору кадраў. Яны, гэта значыць прэзідэнцкія кадры, не павінны наламаць дроў, захаваць лепшае, што было, не згубіць стан кіравання і, зноў-такі, быць прафесіяналамі.

Упершыню ў зале Вярхоўнага Савета гучыць прозвішча кандыдата на пасаду прэм'ер-міністра. Лукашэнка спыніў канчатковы выбар на 46-гадовым старшыні праўлення Аграпрамбанка Міхаіле Чыгіру. Гэтай кандыдатуры не называлі нават у самых рызыкоўных прагнозах.

Незнаёмая фігура — гэта заўсёды прывабная мішэнь для крытыкі і слоўнага абстрэлу. Дарэчы, такі паварот падзей Прэзідэнт прадбачыў. І зрабіў арыгінальны камплімент дэпутатам. Вы, маўляў, здольны загнаць у куток любога прафесіянала. Ацэньваючы сілу і магчымасці парламента, Лукашэнка тым самым заклікаў да разважлівых дзеянняў, да згоды з тым, што ў камандзе ёсць розныя людзі, як і наогул у краіне жывуць самыя розныя людзі.

Пазней, пры адказах на пытанні, Міхаілу Чыгіру дэпутаты наладзілі прыдзірлівы экзамен. Ставіць тую ці іншую адзнаку па першых ўражаннях — справа непрадуктыўная, можна вельмі лёгка памыліцца. Чыста па-чалавечы спадабалася, што новы прэм'ер-міністр (за яго прагаласавалі 266 дэпутатаў) на некаторыя пытанні адказваў шчыра і адкрыта, маўляў, пакуль не ведаю, што сказаць, трэба вывучыць праблему, а гэта, напрыклад, не ўваходзіла ў сферу маіх службовых інтарэсаў. Відаць, не трэба папракаць прэм'ера ў недасведчанасці, проста ён не стаў хавацца за туманнай дэмагогіяй, калі гаворка ішла аб мытным заканадаўстве, аб правах чалавека.

Да рублёвай зоны ў Чыгіра сваё стаўленне: трэба выконваць вераснёўскія пагадненні мінулага года, а не пратаколы палітычных спектакляў Кебіча, як гавораць у народзе. Пры гэтым прэм'ер-міністр выказваўся за цвёрдае стаўленне да дзяржаўнасці.

Першы становчы крок, відаць, знізіў насцярожаную напружанасць і ў душы Прэзідэнта, і ў душах дэпутатаў.

Без асаблівых праблем Вярхоўны Савет падтрымаў кандыдатуры на пасады намеснікаў прэм'ера Уладзіміра Гаркуна, Віктара Ганчара, Міхаіла Мясніковіча.

З Уладзімірам Гаркуном было прасцей. Пра яго ўсе гаварылі, што добра ведаюць. У адкрытую выказалі і тое, што старшыня Пастаяннай аграрнай камісіі бышчам бы моцна ўплываў і на саўмінаўскіх чыноўнікаў, і на самога Вячаслава Кебіча.

Да Віктара Ганчара адносіны больш складаныя. Адна акалічнасць — малады, і то нешта значыць. Але Лукашэнка настойваў на падтрымцы. Аргументы — "таленавіты, завяршылася фарміраванне стрыжня характару".

Трэба сказаць, што прэтэнзіі да Ганчара былі лёгка адбіты ім. І ён атрымаў 258 галасоў у падтрымку.

Міхаіл Мясніковіч прадстаў перад дэпутатамі як бы ўвасабленнем усіх грахоў старога ўрада. Прагучалі і новыя абвінавачванні асабістага характару. Прэзідэнт рашуча пераверў агонь на сябе, маўляў, калі ёсць факты, з імі разбярушча такія спецыялісты, як Васіль Даўгалёў і Міхаіл Сазонаў, якіх і не падкупіш, і вакол пальца не абвядзеш.

Галасаванне расцягнулася на цэлы рабочы дзень. Аднаму з кандыдатаў выпала самае цяжкае выпрабаванне — трапіць у бюлетэнь для тайнай працэдуры. Цікавая псіхалагічная акалічнасць: галасаванне электроннай сістэмай дэпутаты лічаць адкрытай, калі сусед можа даведацца пра сімпатыі і антыпатыі да той альбо іншай кандыдатуры.

Такі гонар выпаў на долю Дзмітрыя Булахава, якога Прэзідэнт хацеў бы ўбачыць у ролі старшыні Канстытуцыйнага суда. Але ў дэпутатаў свой пункт гледжання. Яны палічылі, што Прэзідэнт павінен прапанаваць іншую кандыдатуру на гэтую высокую і адказную пасаду, а таму ў выніку тайнага галасавання Д.Булахаў не стаў Старшынёй Канстытуцыйнага суда.

# *БЕЛАРУСЬ – ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСАЎ...*
## *Бо назоў "беларусы" тоесны назову "беларускі народ".*

**Максім ГРЭК, «Д.В.»**

Мінулы тыдзень быў адзначаны адной на першы погляд звычайнай, але на самай справе надзвычай адметнай і важнай падзеяй — Прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка прыняў актыўны ўдзел у сьвяткаваньні Дня незалежнасьці краіны.

Бог ты мой, што-ж тут важнага ды адметнага! — усклікне неспрактыкаваны ў беларускай рэчаіснасьці чытач. — Гэта-ж натуральна, каб першая асоба краіны разам са сваім народам адзначала дзяржаўныя сьвяты, тым больш сьвяты такога грамадзянскага і патрыятычнага кшталту, як Дзень незалежнасьці.

Усё так. Аднак напярэдадні 27 ліпеня з лагера так званых «левых» сілаў прагучалі прамыя заклікі да Прэзыдэнта аб ігнараваньні гэтага сьвята. Незалежнасьць, пакамуняцку, Беларусь атрымала 1 студзеня 1919 года, калі Масква ў процілегласьць БНР стварыла марыянэтачную БССР. І менавіта гэты дзень разам з «левымі» прапаноўвала сьвяткаваць Прэзыдэнту.

Дзякуй Богу, Аляксандр Лукашэнка аказаўся куды разумнейшым, чым думалі пра яго таварышы з якой-небудзь ДСПС. Але дзейнасьць арганізацыяў камуністычнага веравызнаньня патрабуе, тым ня менш, самай пільнай грамадзкай увагі.

Яны адмаўляюць у справядлівасьці для нацыі. Усе іхнія разумовыя практыкаваньні ў нацыянальным пытаньні зводзяцца да двух пастулятаў: да адзінства славянскіх народаў і, на аснове гэтага адзінства, да інтэрнацыяналізму. Яны любяць беларуса як «белого руса» і не надта паважаюць украінцаў, бо тыя мусяць звацца «русами малыми».

Славянскі сабор «Белая Русь» (назва!) днямі расплакаўся перад маскоўскімі ўладамі — што-ж вы, маўляў, робіце! Чаму-ж вялікую нацыю губіце? Як вы ў сваіх новых пашпартах у грыфе «нацыянальнасьць» даўмеліся пазначыць «рускі»?! Трэба-ж пісаць «вялікарус», бо беларусы з украінцамі — таксама рускія!

Яны страцілі адчуваньне рэчаіснасьці. Мне даводзіцца шмат сустракацца, гутарыць з людзьмі. З тымі, у тым ліку, хто галасаваў за А. Лукашэнку. Паверце, вельмі мала хто памятае гучнае выступленьне сёньняшняга Прэзыдэнта на так званым Кангрэсе народа Беларусі. Ніхто не зважаў на яго закіды пра «развал Саюза». Яго абіралі хіба толькі як «мсьціўцу» і «барацьбіта».

Калі-ж гаворка заходзіць пра наш лёс, пра лёс Беларусі і яе народа, людзі чакаюць ад Прэзыдэнта рашучасьці — насьпеў час самім абараняць свае інтарэсы. Насьпеў час увядзеньня сваёй валюты, час спагнаньня транзітных тарыфаў, час выплаты за ўтрыманьне расейскага войска і г. д.

А прыклад ёсьць — краіны Балтыі. Краіны, якія першымі ўсьвядомілі свае **нацыянальныя інтарэсы** і першымі пачалі за іх змагацца.

І вось што цікава — а нам пра гэта практычна не гавораць — нацыянальныя інтарэсы эстонцаў ці латышоў там амаль супадаюць з нацыянальнымі інтарэсамі так званых «рускамоўных» гэтых краін. Таму што інтарэсы гэтыя — інтарэсы ўсяго народу Эстоніі і Латвіі.

Ня так даўно я меў гутарку ў Міністэрстве замежных справаў з консуламі і пасламі Беларусі ў краінах Балтыі. Высьветлілася, што там, у Балтыі сапраўды ёсьць некаторыя праблемы ў нашых суайчыньнікаў. Але тычацца яны ў асноўным пэнсіянэраў, асабліва вайсковых — тых, хто не жадае прыкласьці нейкія намаганьні дзеля інтэграцыі ў латвійскае альбо эстонскае грамадзтва. З моладзьдзю-ж і людзьмі «актыўнага» ўзросту — з тымі, хто імкнецца жыць і працаваць у гэтых краінах — праблем аніякіх. Моладзь разумее, што анічога так проста ў жыцьці не даецца, і прымае правілы гульні, якія патрабуюць пэўных высілкаў у аваладаньні той-жа мовай альбо разуменьні мяйсцовага нацыянальнага манталітэту.

Працэс натуральны: дзяржава бароніць свае інтарэсы — грамадзянам дзяржавы жывецца лепей.

Нажаль, гэтага не разумеюць нашыя мясцовыя камуністы, далучаючы сябе да «неабароненых рускамоўных». І іхняя неабароненасьць, як высьвятляецца часам з залішне шчырых заяў, накшталт, вышэйпамянёнага звароту да Прэзыдэнта, — у самім існаваньні Беларусі як незалежнай дзяржавы.

І ёсьць тут яшчэ адзін момант, пра які гаварыць не хацелася да апошняга. Справа вось у чым: каб я, беларус, прыехаў у Расею і павучаў рускіх калі ім адзначаць дзяржаўныя сьвяты, напрыклад, то ня толькі-б рускія глядзелі на мяне «тамбоўскім воўкам». Я сам, чужынец, адчуваў-бы сябе надта няёмка, бо ў любым выпадку не мая справа — лезьці з бруднымі нагамі ў чужую душу.

А вось у спадароў Некрасава ці Сорокина, Школьникова ці Иванова ні на хвіліну не зьяўляецца сумненьне: ці маюць яны права? Ці сталі гэтыя спадары настолькі беларусамі, настолькі прасякніся беларускім духам, каб вучыць нас і раіць нам?

Зрэшты, пасаж гэты чыста эмацыйны. І ёсьць на Беларусі рускі старшыня БСДГ Алег Трусаў, і быў беларус касманаўт П. Клімук. А ключык тут у тым, што трэба проста шчыра задумацца пра лёс і інтарэсы нашай зямлі.

І апошняе.

Першы Прэзыдэнт краіны — чалавек, які яшчэ ня нюхаў паветра ўлады на вяршыні палітычнага Алімпа. І гэта чалавек, ад пазіцыі якога ў вельмі многім будзе залежаць стаўленьне дзяржчыноўнікаў да беларускасьці і беларушчыны. З яго імем беларуская дэмакратыя не зьвязвала надзей, але пасьля яго абраньня ўсё-ж спадзяецца на вышэйшую дзяржаўную мудрасьць гэтага чалавека. Вунь, нават БНФ заявіў пра тое, што знаходзіцца да А. Лукашэнкі не ў апазыцыі, а ў канструктыўнай пазыцыі.

Пра што я?

Пра тое, што я таксама супраць кандыдатуры Дзьмітрыя Булахава на пасаду Старшыні Канстытуцыйнага суду. Але я ўдвая супраць сёньняшняга в.а. — Валерыя Ціхіні. Ён, бачыце, цяпер стаўся беспартыйным, але-ж чуваў Талькоў сьпяваў у свой час — «перестроить можно рожу, ну а душу — никогда...». І хоць забіце мяне, але абаронцам беларускай канстытуцыйнасьці Валерыя Гур'евіча я ня бачу.

І шчыра спадзяюся, што А. Лукашэнка знойдзе і прапануе Вярхоўнай Радзе іншую вельмі патрэбную на гэтую пасаду адметную асобу.

Спадзяюся, што ён і яго міністры ўпарадкуюць сыстэму сродкаў масавай інфармацыі і болей не дапусьцяць скасаваньня «Беларускай маладзёжнай» ці рэгістрацыі «Новай народнай газэты»...

Спадзяюся, што ён і яго міністры ня будуць звальняць з арміі афіцэраў за наўмысьласць беларускага духу.

Спадзяюся, што ён і яго міністры будуць імгненна расшукваць падонкаў, што двойчы крышылі шыльду «Нашага слова», рабавалі «ЛіМ» і размалёўвалі свастыкамі кіёск ТБМ.

Спадзяюся, што ён і яго міністры ведаюць, што нафта здабываецца ня толькі ў Расеі, а таксама палічаць тыя сотні мільёнаў штогадовых даляраў, якія плаціць (а не атрымлівае!) Беларусь за войскі ўсходняй суседкі на сваёй тэрыторыі.

Спадзяюся, што яму і яго міністрам будзе цікава, адкуль, з якіх часоў і ад якіх высокіх асоб вядзецца рэй традыцыяў беларускай дзяржаўнасьці, і яны і надалей будуць сьвяткаваць нашыя сьвяты — 25 сакавіка і 8 верасьня ў тым ліку.

Я сапраўды шчыра спадзяюся на гэта, і першыя дні праўленьня Прэзыдэнта не скасоўваюць гэтай надзеі.

Паглядзім, што будзе далей?..

ПАСЛУХАЙЦЕ!!!

Наша агульная мэта, —
каб выходзіла газэта!..
Дык хай кожны ахвяруе,
толькі, колькі не шкадуе.
А калі дасьць колькі можа,
гэтым ён нам дапаможа...
Дык усіх Вас заклікаем:
Памажэце! Мы чакаем...

Надаслаў наш чытач, Д. Б.

# КРЫХУ ПРА ЖОНКУ ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ...

Расейская газэта "Известия" зусім нядаўна зьмясьціла першае інтэрв'ю з жонкаю прэзыдэнта Беларусі – Галінай Лукашэнка.

З гэтага інтэрв'ю мы даведваемся, што Спадарыня Галіна вучылася ў Магілёўскім пэдінстытуце і ў 1975 годзе выйшла замуж за А. Лукашэнку. У іх два сыны: Віктару – 18 год, Дзімітру – 14. Далей даведваемся, што Прэзыдэнт умее даіць карову, і што гадаваўся ён без бацькі, і што любіць розную жывёлу. Спорт у яго таксама ў пашане, асабліва футбол і ранішняе беганьне. Найбольш цікава тое, што на пытаньне карэспандэнта:

– А ёсьць у вас палітычныя разыходжаньні з мужам? – Спадарыня Галіна даслоўна адказала:

– У сім-тым я з ім не пагаджаюся. Напрыклад ён выступае за двухмоўе, а я лічу, што ў нас павінна быць дзяржаўнаю толькі беларуская мова. Сорамна нам, беларусам, ня ведаць сваю мову і калі ўвесьці двухмоўе, дык усё застанецца так, як ёсьць... Чэсна і разумна сказана!..

# *НЯЎЖО БЕЛАРУСКІЯ ПАШПАРТЫ?!*

**Надрукаваны першыя сто тысяч беларускіх пашпартоў. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар выдавецтва «Беларускі Дом друку» Барыс Кутавы. За права выканаць гэты заказ спрачаліся фірмы Германіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, ЗША. А надрукаваны пашпарты ў «Беларускім Доме друку» на імпартным абсталяванні і матэрыялах. Беларускі пашпарт адпавядае агульнаеўрапейскаму стандарту. Надпісы на трох мовах — беларускай, рускай і ангельскай. Такім чынам, Кебічава палітыка арыентацыі на Усход і тут знайшла адлюстраванне. Невераґодна, каб у новым расійскім пашпарце надпісы дубляваліся на беларускай мове. Дык навошта такія рэверансы ў бок Расіі?**

**«Нацыі, якая імкнецца да незалежнасці, трэба верыць у свае сілы. Калі яна пазбаўлена гэтага пачуцця, калі яна не прыкладае ўласных намаганняў для захавання свайго існавання.., то можна смела сказаць, што яна не даб'ецца ні шчасця, ні гонару, ні славы».**

***Т.КАСЦЮШКА***

***(Лісток календара «Родны край» за 27 ліпеня г.г.)***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## *КАРОТКІЯ ВЕСТКІ*

**Паведамляецца, што новым прэм'ерам Беларусі стаў Міхась Чыгір, які апошнім часам працаваў дырэктарам Беларускага акцыянерна-камерцыйнага аграпрамысловага банку. М. Чыгіру – 46 гадоў. Ён скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнае гаспадаркі і спэцфакультэт Маскоўскага фінансавага інстытута. Яго дзейнасьць у асноўным праходзіла ў банкаўскай сыстэме. Чатыры гады працаваў у апараце ЦК кампартыі Беларусі.**

**Недзяржаўны сэктар эканомікі і камэрцыйныя банкі, лічыць М. Чыгір, павінны быць уключаны ў выпаўненьне агульнадзяржаўных задач...**

****

**Дзяржавы СНГ у першым паўгодзьдзі 1994 года зьменшылі прамысловую прадукцыю на 27,6% у параўнаньні з тым-жа пэрыядам мінулага года, аднак у чэрвені выпуск прадукцыі быў вышэй стану на 4%, як паведамляе статыстычны камітэт СНГ. Найбольшы спад адбыўся ў Грузіі, дзе прамысловая прадукцыя за студзень-чэрвень абнізілася на 50%. У групе з уемнымі паказчыкамі цяпер таксама Украіна (36%), Туркменія (33%), Беларусь (31,5%), Казахстан (29%),. Спад у прадукцыі Расеі выносіць цяпер 25,8%.**

****

**Паводле даволі верагодных крыніцаў, у ЗША налічваецца каля 500.000 праваслаўных грэкаў, 60.000 праваслаўных, што належаць да Антыяхійскае царквы, каля 20.000 праваслаўных украінцаў, каля 25.000 праваслаўных "рускіх", некалькітысячныя абшчыны праваслаўных румынаў, сербаў, баўгараў і г.д. і 500 праваслаўных беларусаў... А якжа, як заўсёды, беларусы ў самым канцы...**

****

**За значны ўклад у разьвіцьцё беларускай літаратуры і мастацтва, у справу нацыянальнага адраджэньня Указам Прэзыдыюма Вярхоўнае Рады народны пісьменьнік Беларусі Васіль БЫКАЎ узнагароджаны медалём Францішка Скарыны. Віншуем!!!**

**І таксама выйшаў Указ прэзыдэнта Ельцына аб узнагароджаньні Васіля Быкава ордэнам "Дружбы народаў". Як паведамляе прэса, гэтая нагарода мела складаную прадгісторыю. Чыноўнікі-бюракраты з двух бакоў хітра рабілі перашкоды, але прыемна адзначыць, што міністр замежных спраў Беларусі – П. Краўчанка ў лісьце у расейскую газэту "Известия" самым рашучым спосабам падтрымаў ініцыятыву аб узнагароджаньні Спадара Васіля Быкава.**

****

**Сойм Беларускага Народнага Фронту прыняў пастанову аб стварэньні Выбарчага камітэту БНФ, які будзе займацца падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўную Раду Беларусі.**

**Паводле слоў заступніка старшыні БНФ Сп. Юркі Хадыкі, які стаў на чале выбарчага камітэту, гэтая структура павінна прааналізаваць перадвыбарчую сытуацыю, падрыхтаваць сьпісы кандыдатаў у дэпутаты, якіх будзе падтрымліваць БНФ на парляманцкіх выбарах, дапамагчы ў стварэньні "камандаў", а таксама прыняць удзел у выпрацоўцы агульнай для БНФ перадвыбарчай плятформы. Ю. Хадыка мяркуе, што фармаваньне камітэту завершыцца не раней верасьня.**

**Тым часам лідар БНФ Зянон Пазьняк 28 ліпеня наведаў Гомель.**

**На сустрэчы з дэпутатамі, інтэлігенцыяй, бізнэсмэнамі і прэсай З. Пазьняк адзначыў, што мэта ягонага візыту – азнаёміцца з палітычнай сытуацыяй у месцы...**

**Сваю паразу ў прэзыдэнцкай кампаніі ён пракамэнтаваў як "тыповы зьбег акалічнасьцяў"...**

**Трэба ведаць, што Гомельскі рэгіён фактычна не падтрымаў ягоную кандыдатуру, дзеля недапрацоўкі ягонай выбарчай каманды...**

## *ШМАТПАКУТНАЯ БЕЛАРУСЬ*

Цяжка назваць у Еўропе рэгіён з такім горкім лёсам, які выпаў на долю нашай зямелькі ў XX ст. У гэтай сувязі амаль прароцкі гучаць словы са звароту беларусаў-уцекачоў і грамадзян Беларусі на мітынгу 14 красавіка 1918 г. у Петраградзе. «Вы, украінцы, імкнецеся свае паўночныя межы пашырыць за кошт беларускіх паветаў Чарнігаўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў. Вы, літоўцы, імкнецеся далучыць да сябе беларускія паветы Ковенскай, Гродзенскай і Віленскай губерняў, а прадстаўнікі вашых імперыялістаў парываюцца на ўсю паўднёва-заходнюю частку Беларусі. Вы, палякі, карыстаючыся тым, што Беларусь, разам з Літвой, калісь была ўсходняй ускраінай вашага караля і ягоных пахолкаў, усю Беларусь, ад Беластока да Дняпра, спрабуеце ўключыць у межы свайго зноў ствараемага каралеўства». Кіруючыся палітычнымі меркаваннямі, мітынгуючыя тактоўна апусцілі назвы ўсходніх тэрыторый, хаця ў самой рэзалюцыі адзначана: «трыста сорак сем гадоў Беларусь прыгнятала каралеўская Польшча, а сто дваццаць наступных гадоў яе тыраніла расійская карона»[1]. І ўсё ж, не гледзячы на гэты ўціск, на кожным гістарычным рубяжы пытанне незалежнасці ўзнікала з новай сілай.

Так адбывалася і ў нашым, XX стагоддзі. Тэрыторыя, аб'яднаная этнічна, гістарычна і эканамічна, але раз'яднаная палітычна, з нагоды хціўых суседзяў, безадказных палітыканаў і нашых уласных калабарацыяністаў, распасцёрлася ад Нарэва і Буга на захадзе, да вярхоўяў Дняпра, Заходняй Дзвіны і Волгі на усходзе.

Гістарычная праўда зацемнена шматлікімі фальшывымі працамі, што пісаліся не з мэтай пошуку ісціны, а з мэтай яе ўтойвання. І чым бліжэй да нашага часу, тым больш з'яўлялася такіх «работ».

Але і сярод нагрувашчання адмысловай хлусні можна знайсці асобныя кнігі, напісаныя з праўдзівых пазіцый. Адной з іх, першай у XX ст., з'яўлялася праца Я. Карскага. Кніга была выдадзена ў 1904 г. у Вільні[2]. У ёй дадзена шмат грунтоўных назіранняў і абагульненняў, якія не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці на сённяшні дзень. Ёсць у ёй і такія звесткі, якія з'яўяцца поўнай нечаканасцю для сучасніка. Я. Карскі заўважае, напрыклад, што насельніцтва Усурыйскага краю на 5/6 складалася з беларусаў.

Але звернемся да нашай шматпакутнай зямлі. Беларускі народ, раскіданы пры царызме па розных адміністрацыйных адзінках, тады яшчэ быў здольны зберагаць свой лад жыцця і сваю мову. Вось як зазначаў гэта даследчык: «Беларуская мова, у той ці іншай ступені, гучыць у губернях: Віцебскай (большая частка), Курляндскай (нязначная частка), Ковенскай (нязначная частка), Віленскай (большая частка), Гродзенскай (палова), Сувалкскай (адзін павет), Мінскай (большая частка), Магілёўскай (уся губерня), Чарнігаўскай (значная частка), Арлоўскай (заходні кут), Калужскай (нязначная частка), Смаленскай (большая частка), Цвярской (нязначная частка), Пскоўскай (нязначная частка)»[3]. Зноў жа Я. Карскі склаў і «Этнаграфічную карту Беларускага племені». Па яго падліках, колькасць беларусаў у пачатку XX ст. складала 8 317 961 чалавек. Пры гэтым у сваіх даследаваннях вучоны строга карыстаўся лінгвістычнымі (моўнымі) адметнасцямі і ўсе спрэчныя пытанні вырашаў не на карысць беларускага этнасу. Так ён праігнараваў паўднёва-заходні кут, дзе моўныя адметнасці ішлі на карысць украінскай мовы. І гэта не ўлічыўшы ў поўнай ступені культурна-эканамічную, этнаграфічную і гістарычную супольнасць. Ягоны сучаснік, беларускі гісторык М. Доўнар-Запольскі, выправіў памылку калегі і стварыў новую карту, якая ўлічвала ўсе фактары — ад моўных да гісторыка-этнічных. Апошняя карта якраз і ўстанаўлівала сучасную паўднёвую мяжу амаль такім чынам, як яна існуе і сёння. Абедзве карты адыгралі пэўную ролю ў падзеях на Беларусі.

Пытанне аб нацыянальнай незалежнасці і палітычным прызнанні «стала рубам» пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі і Кастрычніцкага перавароту ў 1917 г. Хваля нацыянальнай свядомасці, што ўзнялася паўсюдна, вымагала да пошукаў новых форм нацыянальнага існавання. Крах імперый нарадзіў шмат новых дзяржаў на палітычнай карце Еўропы. У гэты час абудзіліся Венгрыя, Аўстрыя, Чэхаславакія, Польшча, Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва. Апошнія пяць вылучыліся, галоўным чынам, з былой Расійскай імперыі. Дарэчы, у свой час яны былі ўключаны ў склад імперыі адначасова з Беларуссю: Фінляндыя на самым пачатку XIX ст., большая частка Латвіі і Эстоніі яшчэ пры Пятры I у пачатку XVIII ст. Дзеля справядлівасці адзначым, што Латвія, як асобная суверэнная дзяржава, ніколі не існавала раней. Некалі тут было Інфляцкае княства, якое належала Рэчы Паспалітай. Земгала і Курляндыя далучаны да Расіі на пачатку XVIII ст. Беларусь жа, як вядома, была захоплена царскім урадам у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай — у 1772, 1793, 1795 гг.

На пачатак XX ст. беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, які меў ужо за сваімі плячыма звыш двух дзесяцігоддзяў актыўнай барацьбы на палітычнай арэне, рабіў пэўныя захады на шляху незалежнасці. 25 сакавіка 1918 г. была прынята III Устаўная грамата, якая абвясціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай і вольнай дзяржавай. Яе тэрыторыя, у адпаведнасці з граматай, ахоплівала Магілёўшчыну, беларускія часткі Міншчыны, Віленшчыны, Гродзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны, а таксама сумежныя часткі суседніх губерняў, якія былі заселены беларусамі. Стварэнне БНР не ўпісвалася ў бальшавіцкую дактрыну. У сувязі з гэтым былі прыняты адпаведныя захады. На II з'ездзе Саветаў Заходняй вобласці, як рэакцыя ў адказ на абвяшчэнне БНР, была прынята рэзалюцыя ад 14 красавіка 1918 г. У ёй гаварылася: «II з'езд Саветаў Заходняй вобласці прызнае, што ў цягу расійскай рэзалюцыі выявілася неабходнасць аб'яднання старых губерняў у абласныя адзінкі на прынцыпах эканамічных, геаграфічных і этнаграфічных, што губерні Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Мінская... якія зліваюцца па свайму геаграфічнаму становішчу, натуральна цягнуцца адна да адной, утвараючы адзінае цэлае — Заходнюю вобласць»[4]. Нагадаем, што ў склад савета камісараў Заходняй вобласці ўваходзіла пяць яўрэяў, тры палякі, па аднаму — літовец, латыш і беларус[5]. Цікава, што ў дакументах СК Заходняй вобласці слова «беларускі» ўжывалася толькі ў адмоўным сэнсе, асабліва калі ўзнікала патрэба зняславіць БНР. Тым не менш стварэнне Заходняй вобласці, з цэнтрам у Смаленску, з'явілася хоць і вымушаным, але ўсё ж крокам на шляху прызнання бальшавікамі натуральнага права і імкнення беларусаў да адраджэння сваёй дзяржаўнасці. Тым часам у бальшавіцкіх арганізацыях, асабліва на месцах, працягваюць ганьбіць «сепаратызм» Беларускай рады[6]. У шальмаванні ўдзельнічаюць толькі тыя арганізацыі, якія знаходзяцца на неакупанай кайзераўскімі войскамі часткі Беларусі. У тыле германскай арміі адбываецца падпольная канферэнцыя камуністычных арганізацый Літвы і Беларусі. У рэзалюцыі яе падкрэслівался, што асноўнай задачай камуністаў з'яўляецца арганізацыя авангарда рабочых і сялянскіх мас, кіраўніцтва класавай барацьбой. Тут жа былі сфармуляваны задачы барацьбы супраць нямецкіх акупантаў, а таксама супраць тых дробнабуржуазных партый, якія падтрымлівалі Беларускую раду[7].

Узнікае натуральнае пытанне, чаму заклікалі да барацьбы з саюзнікамі Беларускай Рады? Кайзераўскімі войскамі, між іншым, была акупіравана і Літва. Але рэзалюцыя не заклікала да барацьбы з Літоўскай буржуазнай Тарыбай. Хіба апошняя не ставіла тых жа мэт, што і Беларуская Рада? Адказ вельмі просты — Беларуская Рада мела падставы, як юрыдычныя, так і гістарычныя, рэальна прэтэндаваць на распаўсюджанне свайго ўплыву на значна большую тэрыторыю, чым Літоўская Тарыба. Да таго ж Беларусь знаходзілася на галоўным, паміж усходам і захадам, стратэгічным напрамку. Таму і захады ўрада БНР лічыліся больш небяспечнымі.

Пасля выгнання з Мінска кайзераўскіх войск камандаванне Чырвонай Арміі аддало адным і тым жа днём (10 снежня 1918 г.) тры загады. Апошні, трэці, ад імя толькі што створанага Ваенна-Рэвалюцыйнага камітэта, абвяшчаў абавязковым роспуск Беларускай Рады і арышт усіх яе членаў[8].

Але цягнік ужо рушыў, ідэя волі і незалежнасці авалодала масамі. Каб перацягнуць на свой бок беларусаў, у канцы снежня 1918 г. ЦК РКП(б)Б прыняў рашэнне аб аб'яўленні альтэрнатыўнага БНР дзяржаўнага ўтварэння — БССР. У звароце Цэнтральнага бюро беларускіх секцый РКП(б) ад 29 снежня падкрэслівалася: «У гэтай тытанічнай барацьбе мусім прымаць удзел і мы, беларусы: наш 12-мільённы народ, пад'ярэмны волі польскіх, літоўскіх каралёў і рускіх цароў, зараз, каб быць вольным, абавязан, як адзін чалавек, устаць на абарону Расійскай Савецкай Федэратыўнай Рэспублікі, на абарону сацыялізму». Ворагамі рэвалюцыі называліся Літоўская Тарыба, Украіна Скарападскіх і Пятлюр, Польшча і Беларуская Рада. VI абласная канферэнцыя Заходняй вобласці, якая адбылася крыху пазней, аб'явіла сябе I з'ездам Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі. У рэзалюцыі ад 30 снежня 1918 г. гаварылася: «VI абласная канферэнцыя бальшавікоў лічыць неабходным аб'явіць Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусь з тэрыторый Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў»[9]. Тэрыторыя Віленскай губерні была пакінута па-за ўвагай, таму што там бальшавікі стваралася альтэрнатыўная буржуазнай Літве Літоўская ССР. У гэты ж дзень ад імя з'езда Кампартыі бальшавікоў Беларусі была прынята пастанова аб

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ... У СУСВЕТНЫМ МАШТАБЕ

"ЛіМ"

Памёр Сяргей Карніловіч. Спачуваючы родным і блізкім нябожчыка, я смуткую разам з імі, бо памёр не проста добры чалавек, памёр адзін з тых руплівых беларускай ідэі, чыімі намаганнямі беларусы Злучаных Штатаў Амерыкі не забываюцца на сваю Бацькаўшчыну. Я быў асабіста знаёмы са спадаром С. Карніловічам, таму ягоная заўчасная смерць балюча адазвалася ў маім сэрцы. Да таго ж прыбавіла да наступных меркаванняў.

Беларусь «афіцыйная» доўгія дзесяцігоддзі адмаўляла сваім сынам і дочкам, якія волею лёсу апынуліся за мяжой, у натуральным пачуцці — любові да сваёй радзімы, рабіла выгляд, нібыта беларускай эміграцыі не існуе ўвогуле, а тыя, хто эміграваў, — здраднікі. І кропка.

Тысячы здраднікаў?

Абсурд! Гэтыя «здраднікі» ні ад каго не хаваліся, дык чаму іх ніхто і ніколі не арыштаваў? Хіба адно толькі наша краіна змагалася са злачынствамі і злачынцамі?

Відавочна, што гэта быў звычайны савецкі міф, а з другога боку — злачынства. Злачынства былой ідэалагічна-дзяржаўнай сістэмы ў адносінах да свайго народа. Але ж, што было рабіць эмігрантам, акрамя таго, як асіміляваца ў асяроддзі тых, побач з кім яны апынуліся? Радзіма ж іх не лічыла за сваіх дзяцей.

Тым не менш, свядомая частка беларусаў не забылася сваёй Бацькаўшчыны і рабіла шмат спраў на яе карысць, дзеля чаго былі створаны шматлікія культурныя беларускія цэнтры, намаганнямі такіх выдатных дзеячаў, якім быў і Сяргей Карніловіч. Згадайма такія цэнтры, як «Менск», «Полацак», Інстытут беларускай навукі і культуры — у ЗША; бібліятэку імя Францішка Скарыны — у Лондане і г. д. Але створаны ды існуюць яны на энтузіязме эмігрантаў пераважна першага пакалення, у чыёй памяці Беларусь — не геаграфічнае паняцце, не радзіма бацькі ці маці, бабулі ці дзядулі, а іх уласная радзіма, дзе жывуць родныя, знаёмыя, дзе засталіся іх дзяцінства, іх праца, іх зямля.

Цяпер яны старэюць і, на жаль, паміраюць. І мяне непакояць пытанні: што будзе з тымі асяродкамі беларускай культуры ў недалёкай будучыні? Што будзе зараз з «Полацакам», асірацелым пасля смерці спадара Карніловіча? Што станецца з Інстытутам беларускай навукі і культуры без Кіпеляў? Што будзе з бібліятэкай імя Ф. Скарыны без айца А. Надсана? Дай ім, Божа, здароўя і даўгалецця, але пытанні між тым застаюцца.

На эміграцыі жылі й жывуць мастакі, пісьменнікі, паэты, архітэктары, кампазітары, музыканты, якія кіруюцца ў сваёй творчасці беларускай ідэяй /ментальнасцю/. Але, паўтаруся, за нешматлікім выключэннем — гэта эмігранты першага пакалення. Нават у другім пакаленні беларускай моваю валодаюць ужо дрэнна, а што гаварыць пра трэцяе? Мастацкае жыццё беларускай дыяспары замірае і, хутчэй за ўсё, апусціцца да зусім нязначных з'яў, калі гэтае /мастацкае/ жыццё не будзе падтрымана з боку Беларусі — Бацькаўшчыны. Нельга рабіць выгляд, што справа гэтая — выключна справа самой эміграцыі.

Калі палітычнае жыццё Беларусі — болей справа грамадзян Беларусі і ўскосна — жыхароў дыяспары /чый абавязак — быць добрасумленнымі грамадзянамі тых краін, дзе яны жывуць/, дык зусім іншая справа — беларуская культура. У якім кутку свету ні жылі б беларусы — гэта іхняя агульная справа. Вось чаму мяне і непакоіць будучыня беларускіх культурных цэнтраў, створаных выдатнымі дзеячамі эміграцыі.

Урэшце й сфармуляваліся ў мяне канкрэтныя прапановы.

I. Пад эгідай фонду «Адраджэнне Беларусі» стварыць Сусветную Асацыяцыю беларускіх культурных цэнтраў з наступнымі задачамі:

1/ падтрымка культурнага і мастацкага жыцця беларускай эміграцыі /тое, дзеля чаго яны і былі створаны/;

2/ быць праваднікамі здабыткаў культурных каштоўнасцей беларусаў замежжа для беларусаў на радзіме;

3/ стаць апорнымі пунктамі для ажыццяўлення культурных акцый з Беларусі для эмігрантаў;

4/ стаць праваднікамі беларускай культуры ў асяроддзі тых народаў, сярод якіх жывуць беларусы;

5/ стаць праваднікамі культуры тых народаў, сярод якіх жывуць беларусы, для беларусаў на радзіме.

Словам, трэба стварыць структуру накшталт Інстытута імя І. В. Гётэ /Германія/, але з больш вялікім полем дзейнасці.

II. Для стварэння Асацыяцыі склікаць канферэнцыю кіраўнікоў беларускіх культурных цэнтраў летам 1994 года ў Мінску. З боку нашай дзяржавы мэтазгодна прадстаўніцтва міністэрстваў: замежных спраў, культуры, інфармацыі, фінансаў, асветы; далей: Акадэміі навук, Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, кіраўніцтва адпаведных камісій Вярхоўнага Савета, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». А таксама — асобных выдатных дзеячаў культуры і мастацтва як на радзіме, так і на эміграцыі.

Любіць радзіму і вярнуцца жыць на радзіму — рэчы розныя. Большасць тых, хто жыве за межамі Беларусі, не зможа вярнуцца сюды з-за аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычын. Асіміляцыя можа зрабіць іх ды іхніх нашчадкаў немцамі, французамі, амерыканцамі, бразільцамі, рускімі і г. д. Гэта была б вялікая страта для Беларускай дзяржавы. Але праз культуру беларусы застануцца беларусамі — гэта, відавочна, адзіны шлях. Другога няма, а таму супольны наш абавязак — стварыць умовы для арганізацыі Асацыяцыі беларускіх культурных цэнтраў у сусветным маштабе.

**Віктар СКАРАБАГАТАЎ**

## Новыя акцэнты знешняй палітыкі

***Напрыканцы мінулага тыдня Уладзімір Сянько, новы міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь сустрэўся з журналістамі.***

У сваёй прамове спадар Сянько паведаміў прадстаўнікам прэсы, што не плануе радыкальных змен у знешняй палітыцы рэспублікі. Для гэтага, ён лічыць, няма падстаў. Але ж паколькі з'явілася прэзідэнцкая ўлада, то, безумоўна, з'явяцца і новыя акцэнты. Міністэрства замежных спраў — інстытут рэалізацыі гэтай палітыкі. За апошнія чатыры гады Беларусь прайшла некалькі этапаў. Умацоўваўся знешні аўтарытэт краіны, беспералынна падпісваліся пагадненні аб устанаўленні дыпламатычных адносін. Гэта былі знаёмствы, наладжванні кантактаў. Зараз пачнецца іншы, нялёгкі перыяд, абцяжараны эканамічным становішчам. Але аксіёма застаецца старой. Адносіны з Расіяй — наш прыярытэт. Велізарная суседка, якая нядаўна пачала рэфармаванні, — перагнала нас. Паводле слоў міністра, расійска-беларускія адносіны будуць выпрабаваннем для абодвух бакоў. Нашы, беларускія, эканамічныя стандарты не супадаюць з заходнімі, таму мы павінны хутчэй знаходзіць агульнае з усімі краінамі СНД. Захоўваюць сяброўскія адносіны таксама і з Польшчай, Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, бо паміж намі няма ні рэлігійных, ні этнічных, ні палітычных канфліктаў. Міністэрства замежных спраў пад новым кіраўніцтвам плануе рабіць усё магчымае, каб не зніжаць дынаміку адносін і з заходнімі краінамі.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### *КАРОТКІЯ ВЕСТКІ*

Др. Вітаўт КІПЕЛЬ і ягоная жонка Зора нядаўна адведалі Чыкага. Яны старанна прагледзелі ўсе беларускія эміграцыйныя архівы Чыкага ды наведалі некаторыя этнічныя музеі. У гэты самы час адбыліся вельмі цікавыя сяброўскія спатканьні.

****

Прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка прадставіў новага міністра ўнутраных спраў палкоўніка міліцыі Ю. Захарэнка цэнтральнаму апарату МВД. Ю. Захарэнка паабяцаў прэзыдэнту, што органы ўнутраных спраў навядуць парадак як у сваіх радах, так і ў дзяржаве... Цікава, як новы кіраўнік МВД, усё яшчэ пад статуяй ндобрай славы Фэлікса Дзяржынскага будзе наводзіць гэты парадак?!.

****

Як даведваемся, былы міністар Замежных спраў Беларусі і добры прыяцель беларускае дыяспары Сп. Пятро Краўчанка цяпер часова займаецца паскораным вывучэньнем ангельскае мовы ў Англіі. Жадаем добрых посьпехаў!!!

"Беларуская Мінуўшчына"

# Дабрадзеі з канцылярыі д'ябла

**Уладзімір АНІСКОВІЧ**

Яшчэ раз надышлі сумныя, балючыя, а для многіх жыхароў Беларусі проста трагічныя ўгодкі. Чарнобыль... З цягам часу праблем ад наступстваў той катастрофы веку не менее, паглыбляецца толькі ўсведамленне памераў бяды, жахлівасці таго, што здарылася ў красавіку 1986 года на Чарнобыльскай АЭС.

Як такое магло адбыцца ў нашай "цудоўнай краіне"? Ці то Бог пакараў нас за грахі, ці д'ябал пажартаваў з людзей?

Цяпер-то мы ведаем -- так, д'ябал, бо інакш як д'ябальскімі жартамі, дакладней, д'ябальскім цынізмам не назавеш паводзіны вышэйшай улады, якая тады належала палітбюро ЦК КПСС на чале з яго генсекам. Хлусня і дэзінфармацыя насельніцтва былі ўзведзены на дзяржаўны ўзровень. Усё рабілася дзеля таго, каб сапраўднага становішча насельніцтва не ведала. У першыя, самыя небяспечныя дні, якія, як на бяду, выдаліся цёплыя, сонечныя, тысячы людзей у непасрэднай блізкасці ад ЧАЭС працавалі на агародах і палетках, загаралі, на першамайскае свята праводзіліся традыцыйныя масавыя мерапрыемствы. Цяжка ўявіць, колькі ў выніку гэтага з'явілася лішніх ахвяраў радыяцыі, якіх можна і неабходна было пазбегнуць...

І колькі ж высілкаў спатрэбілася грамадскасці Беларусі і Украіны на тое, каб выкрыць гэтае злачыннае ашуканства народа! У першыя ж дні пасля аварыі затрывожыліся беларускія вучоныя -- у прыватнасці, прэзідэнт АН Беларусі М.Барысевіч, кіраўнік беларускага атамнага цэнтра В.Несцярэнка. Але ў ЦК КПБ іх і слухаць не хацелі. "Перад ім (Несцярэнкам) усе дзверы зачыняліся. Яшчэ чаго: з Масквы ніякіх распараджэнняў, а гэты шуміць, панікуе, патрабуе, каб людзям абвясцілі аб пагрозе іх здароўю", -- піша вядомы пісьменнік, навуковец і публіцыст Алесь Адамовіч. Сам Адамовіч у тыя дні піша ліст генсеку КПСС Гарбачову з падрабязнай выкладкай сітуацыі, якая склалася на Беларусі ў выніку катастрофы на ЧАЭС. І што ж? Праз два гады (!), ужо вясною 1988 года Гарбачоў пры сустрэчы так адрэагаваў на ўсхваляваны зварот пісьменніка: "А, тое тваё перапалоханае пісьмо!"

Дзе было ведаць А.Адамовічу, як і многім іншым сумленным і мужным людзям, чым было заклапочана ў той час вышэйшае кіраўніцтва СССР, Беларусі і Украіны! Маскоўская газета "Куранты" ад 4 чэрвеня 1993 года апублікавала матэрыялы, якія засведчылі, што ўсё кіраўніцтва краіны фактычна ўступіла ў змову супроць сваіх няшчасных грамадзян. Першай у "курантаўскай" падборцы стаіць сакрэтная запіска ў ЦК КПСС тагачаснага міністра замежных спраў Э.Шэварднадзэ, датаваная 7 чэрвенем 1986 г. На прапанову Ізраіля накіраваць у Савецкі Саюз сваіх спецыялістаў у галіне перасадкі касцявога мозгу ён піша: "Полагали бы целесообразным поручить МИД СССР передать израильской стороне... признательность за предложенную помощь и сказать, что в настоящее время нужды в такой помощи нет". Якая вытанчаная дыпламатыя!..

11 чэрвеня 1986 года на пасяджэнні палітбюро была прынята пастанова (пратакол № 16): "Згадзіцца з прапановай, выкладзенай у запісцы т.Шэварднадзэ ад 7 чэрвеня 1986 г." Галасавалі "за": Аліеў, Варатнікоў, Грамыка, Зайкоў, Кунаеў, Лігачоў, Рыжкоў, Саломенцаў, Чэбрыкаў, Шэварднадзэ, Шчарбіцкі.

Машына хлусні і фальсіфікацыі была запушчана на ўвесь свет. 8 ліпеня 1986 года ў Лос-Анжэлесе (ЗША) збіраецца міжнародная нарада па постчарнобыльскай праблематыцы. Запрошаны савецкія спецыялісты. Значэнне той нарады для аказання неадкладнай дапамогі пацярпеламу насельніцтву было відавочнае. Але цэкоўцы ад імя Міністэрства аховы здароўя падаюць запіску ў палітбюро: "Минздрав СССР считает нецелесообразным участие специалистов нашей страны в данном совещании".

Злачынная ваўжаніна ў ЦК КПСС па ўводзе ў зман людзей наконт сапраўдных памераў катастрофы на ЧАЭС набірала размах. Аддзел прапаганды ЦК КПСС арганізоўвае прэс-канферэнцыю для савецкіх і замежных журналістаў -- вядома ж, каб пахваліцца, як усё цудоўна і якая дапамога аказваецца насельніцтву. Робяцца захады па абмежаванні паездак замежных дэлегацый і журналістаў у раён ЧАЭС. Даюцца адпаведныя ўказанні савецкім паслам за мяжой. Разгортваецца шырокая прапагандысцкая кампанія ў сувязі з першымі ўгодкамі чарнобыльскай бяды.

20 лютага 1987 года палітбюро ЦК КПСС пад грыфам "зусім сакрэтна" прыняло рашэнне: "Согласиться с соображениями, приложенными в записке отделов ЦК КПСС по данному вопросу..." Прагаласавалі аднадушна "за": Якаўлеў, Далгіх, Лігачоў, Зайкоў, Лук'янаў, Мядзведзеў, Шчарбакоў, Бірукова, Дабрынін, Слюнькоў, Ціханаў. У той жа дзень з падачы палітбюро сакратарыят ЦК КПСС прыняў пастанову "О плане упреждающих контрпропагандистских акций в связи с годовщиной аварии на Чернобыльской АЭС". Была задзейнічана ўся прэса, радыё і тэлебачанне. Увесь змест і сэнс кампаніі зводзіўся да "нейтрализации возможных действий идеологического противника". Ідэалогія засланіла сабою чалавека навят у той экстрэмальнай экалагічнай сітуацыі.

Чарнобыль -- гэта гісторыя, якая, на вялікі жаль, не скончылася і яшчэ не хутка скончыцца. Але яна высвеціла сапраўднае аблічча таталітарнага рэжыму, тую партыю, якая яго ўвасабляла, тых палітыкаў, што, не лічачыся з ахвярамі, праводзілі яго дактрыны ў жыццё. А з гісторыі трэба рабіць высновы.

**З нагоды Дня незалежнасці Прэзідыум Вярхоўнага Савета звярнуўся да грамадзян Беларусі са словамі віншавання. У звароце, у прыватнасці, гаворыцца:**

**«У тым, што адбылося 27 ліпеня 1990 года, ёсць свая гістарычная справядлівасць. Ідэя незалежнасці — дзяржаўнай, палітычнай, нацыянальнай — мае на Беларусі тысячагадовую гісторыю. Яна адлюстравана ў статутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, статутных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, Канстытуцыі БССР і замацавана новай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Галоўны яе стрыжань — перспектыўнасць беларускай цывілізацыі, для якой аднолькава непрымальныя крайнія негатыўныя тэндэнцыі як «усходняй», так і «заходняй» мадэляў развіцця. Наша мэта — дэмакратычная: прававая і гарманічна ўпарадкаваная еўрапейская дзяржава».**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# ПРАГНОЗ НА ЗАЎТРА

*"Настаўніцкая Газэта"*

**У пераломны момант у жыцці грамадства навука імкнецца прааналізаваць сітуацыю, якая склалася, даць *прагноз яе развіцця*. У гэтым плане вельмі важную ролю прызвана адыграць і педагогіка, таму што ад таго, якую адукацыю і выхаванне атрымае маладое пакаленне, як яно будзе падрыхтавана да жыцця і дзейнасці ў новых умовах, у многім залежыць будучыня грамадства.**

**Спробу асэнсаваць сучасную сітуацыю ў грамадстве, прааналізаваць існуючую сістэму выхавання і вызначыць шляхі яе рэфармавання зрабіў У.Ф.Валадзько ў сваёй кніжцы "Выхаванне школьнікаў".**

**У пачатку кнігі аўтар выказвае занепакоенасць тым трывожным станам, у якім апынулася сёння духоўнае і фізічнае здароўе значнай часткі моладзі. Справядліва адзначаецца пагаршэнне ўмоў жыцця і выхавання дзяцей у родным доме, спад цікавасці да культуры, літаратуры, мастацтва, рост злачыннасці і іншыя адмоўныя з'явы.**

**Зрабіўшы кароткі агляд работ, якія тычацца ўзнаўлення *існуючай выхаваўчай сістэмы*, аўтар прапануе сваю Канцэпцыю выхавання ў нацыянальнай школе Беларусі, якая, дарэчы, была ў маі мінулага года надрукавана ў "Настаўніцкай газеце".**

**У кнізе вызначаюцца мэты і *стратэгія выхавання*. Сярод мэт аўтар называе: адраджэнне самакаштоўнасці асобы ў грамадстве, сацыялізацыю асобы ў сучасны нестабільны свет, уплыў выхавання на будаўніцтва будучыні. Адзначаецца, што ўнутры сацыялізацыі выхаванне прадугледжвае стварэнне ўмоў для развіцця характару і карэкціроўкі паводзін чалавека ў выніку мэтанакіраванай дзейнасці.**

**Выхаванне У.Ф.Валадзько разглядае як фактар уплыву на фармаванне будучыні. Аўтар справядліва лічыць, што не трэба абяцаць моладзі тое, што яна здольна зрабіць сама. Неабходна даць ёй магчымасць сваімі рукамі будаваць сваю будучыню. А што яна будзе будаваць, залежыць ад выхавання. Такім чынам, выхаванне адказнае за будучыню. Выхаваўчы працэс у масавых праявах ёсць люстэрка свайго грамадства.**

**Разглядаючы працэс пераходу да рынкавай эканомікі, аўтар аналізуе і тое адмоўнае, што з'явілася ў сацыяльным жыцці. Ён адзначае, што пераход да рынку суправаджаецца рэзкім падзеннем жыццёвага ўзроўню насельніцтва, сацыяльнымі катаклізмамі. У маладзёжным асяроддзі расце дыфіцыт духоўнасці, адбываецца падзенне маралі.**

**Асобная глава кнігі прысвечана працэсу выхавання. У.Ф.Валадзько мае рацыю, калі характарызуе выхаванне як "мэтанакіраванае фармаванне ў асобы *адносін да сябе, да людзей* і навакольнай рэчаіснасці. Прычым "фармаванне" разглядаецца не як знешняе ўздзеянне на асобу, а як абуджэнне яе ўнутранай патрэбы ў адпаведных мысленні, дзейнасці, душэўных перажываннях".**

**Выхаванне аўтар выкладае як лагічную і стройную сістэму. У ёй вызначаецца шэсць асноўных задач. Гэтак жа выразна і паслядоўна акрэсліваюцца і восем прынцыпаў выхавання. Тут у поўнай меры праявіўся арыгінальны падыход аўтара да праблемы. У.Ф.Валадзько падкрэслівае апору ў выхаванні на ўнутраны свет дзіцяці, выпрацоўку ў яго імкнення да самавыхавання.**

**Значнае месца ў кнізе прысвечана нацыянальнай сістэме выхавання ў Беларусі. Разглядаюцца наступныя пытанні: выхаванне ў нацыянальнай школе як сістэма, народная педагогіка і выхаваўчыя традыцыі, дыялектыка нацыянальнага і агульначалавечага ў выхаванні.**

**Аўтар праводзіць слушную думку аб тым, што "нацыянальная самасвядомасць фармуецца праз гісторыю, традыцыі народа. Але трэба разумець, што гэтая самасвядомасць не павінна стаць фактарам процістаяння іншым народам. Нацыянальная самасвядомасць садзейнічае выдзяленню свайго этнасу з іншых, але выдзяленне зусім не азначае адчужэнне".**

**Цікавым і слушным з'яўляецца зварот аўтара да народнай педагогікі з улікам яе вялікага выхаваўчага значэння. Народная педагогіка складалася стагоддзямі, яе лепшыя дасягненні прайшлі праверку часам.**

**У кнізе раскрываюцца шляхі вырашэння задач выхавання. Пры гэтым У.Ф.Валадзько зыходзіць са слушнага палажэння, калі сцвярджае, што "галоўная функцыя маральна-прававога выхавання ў нацыянальнай школе — фармаванне грамадзянскасці як ядра асобы, асэнсаванне сябе як прадстаўніка свайго народа, нацыі, дзяржавы".**

**Значная роля ў кнізе надаецца вучнёўскаму самакіраванню. Адчуваецца глыбокае веданне аўтарам гэтай праблемы. Вызначаюцца шэсць асноўных умоў, неабходных для паспяховага функцыянавання самакіравання.**

**Заслугоўваюць увагі прапанаваныя У.Ф.Валадзько розныя формы і метады эканамічнага і працоўнага выхавання вучняў. Прыцягненне, стварэнне ўмоў для ўдзелу дзяцей у пасільнай працы — найбольш эфектыўны шлях працоўнага выхавання.**

**У.Ф.Валадзько значную увагу надае такому важнаму і актуальнаму зараз пытанню, як гарманізацыя адносін чалавека і прыроды. Ён справядліва адзначае, што лёс цывілізацыі не можа вызначацца ні мудрымі ўрадамі, ні міжнароднымі арганізацыямі, ні вучонымі да таго часу, пакуль іх дзеянні не будуць асэнсавана падтрыманы грамадскай думкай. Толькі новае бачанне свету, разуменне суадносін чалавека, грамадства і прыроды, разуменне кожным асабістай адказнасці могуць прывесці да кардынальных змен у лёсе цывілізацыі".**

**Высвятляючы пытанне аб выхаванні індывідуальнасці і калектывізму, аўтар найбольш мэтазгоднае рашэнне яго бачыць у "спалучэнні масавага, калектыўнага і індывідуальнага ўздзеяння, іх гармоніі".**

**Заключная глава кнігі прысвечана вызначэнню ўмоў і сродкаў выхавання на этапе нацыянальнага адраджэння. Аўтар выдзяляе неабходныя ўмовы (іх пяць) пабудавання сістэмы выхавання *ў нацыянальнай школе*.**

**Шмат свежых, цікавых думак выказвае аўтар аб новым педагагічным мысленні як галоўнай умове рэформы выхавання.**

**У кнізе закрануты і такія важныя пытанні, як павышэнне ўзроўню педагагічных кадраў, самастойная праца педагога над павышэннем агульнакультурнай і прафесійнай падрыхтоўкі, а таксама творчы пошук у сваёй педагагічнай практыцы. У гэтым ён справядліва бачыць найбольш эфектыўныя шляхі падрыхтоўкі настаўніка для нацыянальнай школы.**

**Кніга напісана вобразна, чытаецца займальна і цікава.**

**М.ГЕРАСІМОВІЧ**
**старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат філалагічных навук.**

# У БЕЛАРУСІ П'ЮЦЬ ЛІТРАМІ, А ВЫМІРАЮЦЬ – ТЫСЯЧАМІ

Некалькі гадоў таму, у самы разгар антыалкагольнай кампаніі, у адной з вёсак Беларусі здарылася ЧП. Муж з жонкай, добра заліўшы за каўнер, у пошуках чарговай порцыі «вогненнай вады» заблукалі ў суседні саўгас да сваякоў, дзе і占 заначавалі. А дома пакінулі чацвярых непаўналетніх дзетак пад замком. Малодшай дзяўчынцы было крыху больш за тры гады. У хаце дымілася печ, аб якой бацькі-п'янчужкі забыліся, — «смага» адолела...

Дзеці згарэлі ў агні. Аднавяскоўцы, якія збегліся ўначы да палаючай хаты, малых выратаваць не змаглі: было ўжо вельмі позна. Бацькі ж аб трагедыі даведаліся толькі на наступны дзень, калі вярнуліся дадому, на папялішча.

Парадокс, але менавіта гібель дзяцей выратавала п'яніц ад крымінальнай адказнасці. Маўляў, які там суд, калі ў гаротных і без таго бяда. А жудасную смерць дзяцей спісалі на няшчасны выпадак. Разлічвалі, што хопіць адказнасці маральнай: няхай яе праз усё жыццё нясуць. Толькі мараль у п'яніц адна — і ўсім добра вядомая. Пасля таго, як пахавалі тое, што засталося пасля пажару ад дзяцей, бацькі зноў кінуліся ў запой. Дарэчы, і «законная» падстава была: чым страта малых не прычына для памінальных папоек...

Наўрад ці трэба даказваць відавочнае — праблема алкагалізму застаецца ў нашай рэспубліцы адной з фатальных бед, якая калечыць цяперашняе і будучае нацыі. Прычым адзначу: калі дасягненнямі ў палітычным і эканамічным жыцці беларусам казыраць не прыходзіцца, то справа са спажываннем спіртнога ў нас «на вышыні», бо сярод краін СНД Беларусь займае адно з лідзіруючых месцаў па колькасці выпітага.

Алкагалізм выкарчоўвалі, забаранялі, ганілі, змагаліся з ім. Безвынікова. Шэрагі алкаголікаў з зайздроснай хуткасцю папаўняюцца. Паводле даных аддзела медыцынскай статыстыкі Міністэрства аховы здароўя, у 1992 годзе было ўзята на ўлік хворых з упершыню ўстаноўленым дыягназам алкагалізму і алкагольнага псіхозу (у народзе яго клічуць яшчэ «белай гарачкай») на 100 тысяч насельніцтва 71,5 чалавека. У мінулым годзе гэтая лічба ўжо складала 101,6. Як бачым, «прагрэс» значны. Між іншым, сярод аматараў спіртнога летась было ўзята на ўлік з упершыню ўстаноўленым алкагольным псіхозам і хранічным алкагалізмам 40... падлеткаў. Не хочацца згушчаць фарбы, але, падобна, масавая дэградацыя нацыі становіцца відавочнай — усе ўмовы, як кажуць, у наяўнасці.

Па-першае, само жыццё. Учора не было, сёння таксама і на будучае не праглядваецца жадання дзяржаўных і вучоных мужоў, а галоўнае — умення, весці выверану цэнавую палітыку, якая абараняла б маламаёмных ад выдаткаў пераходнага перыяду да рынку, які расцягнуўся Бог ведае на колькі. І пакуль уверсе спрабуюць па-дылетанцку вырашаць праблемы, што апанавалі рэспубліку, эксперыментаваць, народ (найбольш «далікатная» яго частка) здымае стрэс бутэлькай. Як сведчаць цяперашнія рэаліі, далёка не ва ўсіх ёсць сіла волі змагацца сам-насам з цяжкасцямі: *гарэлка ж дапаможа аддаліцца*, хоць на нейкі час забыць пра іх. Праўда, дзеля справядлівасці заўважу, што ў хворага на алкагалізм ёсць такая сіла волі, якая здымае ўсе перашкоды на шляху да жаданага — выпіць. Адзін толькі факт. У 1991 годзе на кожнага беларуса прыпадала спажытага абсалютнага алкаголю 6,3 літра, а вось у 1993 годзе — ужо 7,9 (пры гэтым адзначу, што ў 1993 годзе ў Беларусі памерла 128.500 чалавек, а нарадзілася ўсяго 117.113). Жыць стала горш, нараджаць — вялікая раскоша, а піць — п'ём больш, гэтага не адняць.

І не скардзімся на няхватку спіртнога: вытворчасць яго ў рэспубліцы і імпарт знаходзяцца ў належным стане, з году ў год павялічваюцца, (балазе, гэта добрая крыніца даходаў дзяржавы), зрэшты, як і патрэбнасць. Такое ўражанне, што Беларусь ператвараецца па тыпу якой-небудзь афрыканскай бананавай рэспублікі ў «гарэлачную». Перада мной лічбы Дзяржкамстата. Яны сведчаць, што ў 1991 годзе гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў рэспубліка выпусціла 10.689 тысяч дэкалітраў, летась лічба была ўжо больш салідная — 13.417 тысяч дэкалітраў. Імпарт гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў з краін СНД у Беларусь у 1993 годзе склаў 46 тысяч дэкалітраў, з далёкага замежжа — 127 тысяч дэкалітраў. І гэта пры тым, што на экспарт за мяжу мы адправілі толькі 11,3 тысячы дэкалітраў гарэлкі — у Аўстрыю і Швейцарыю. Астатняе самі папілі.

Дарэчы, калі б статыстам улічыць і тую гарэлку, што завозяць у рэспубліку камерсанты, і прыватнікі і зусім прэзентабельныя прадпрыемствы неафіцыйна, думаю, колькасць дэкалітраў была б куды больш уражальнай. Да таго ж мясцовыя майстры, у якіх вытворчасць «чараўнічага» зелля пастаўлена на шырокую нагу, таксама не трапілі ў радок Дзяржкамстата. Так што аб сапраўдных памерах вытворчасці і спажывання гарэлкі ў нас можна толькі здагадвацца.

А вось аб выніках сяброўства з «зялёным змеем» пагаворым больш канкрэтна.

Возьмем каэфіцыент смяротнасці ад прычын, якія звязаны са спажываннем алкаголю за 1991 і 1993 гг. У 1991 годзе ён складаў 12,4 на 100 тысяч чалавек насельніцтва рэспублікі, а ў мінулым годзе — 22,3. Што ж датычыцца выпадковых атручэнняў алкаголем (як вынік — смерць), то калі ў 1992 годзе іх колькасць складала 1.417, то ў 1993-м яна раўнялася ўжо 2.134. Гэты год наўрад ці стане выключэннем. Ён, трэба меркаваць, прынясе чарговую, у параўнанні з мінулым большую, лічбу своеасаблівага «рэкорда».

І нарэшце, злачыннасць. Не сакрэт, што многія канфліктуюць з законам, калі знаходзяцца «пад мухай». Тут таксама інфармацыі для аптымістычнага погляду на ціхіх алкаголікаў няма. Колькасць злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення, у 1993 годзе вырасла ў параўнанні з 1991-м на 53 працэнты (21.724 і 14.168). Калі ж параўноўваць першы квартал бягучага года і адпаведны перыяд мінулага, то лічба росту — 4 працэнты: іх колькасць у гэтым годзе павялічылася на 192 (4.884 да 4.692 летась).

Такім чынам, пры ўсім жаданні заплюшчыць вочы на праблему співання і дэградацыі народа, трэба канстатаваць, што яна ў рэспубліцы існуе. І як бы нам ні хацелася адмежавацца ад лозунгаў часоў пабудовы светлага будучага тыпу «П'янству — бой», магчыма, гэтыя словы ўсё ж такі былі няхай і невялікай, але ўсё ж заваёвай сацыялізму. Прынамсі, актуальнасць выкінутага на сметнік крылатага выразу можна адчуць ужо сёння — выйсці на вуліцу, паназіраць і ўбачыць: хварэем. Здароўе нацыі, па ўсім відаць, пагаршаецца...

"ЗВЯЗДА" **Ігар ШЧУЧЭНКА.**

Паважаны Чытач! Калі ласка, дай пасільную ахвяру на "Беларускі Дайджэст"...

## PRESIDENT OF BELARUS ON ECONOMIC REFORM

President Alyaxander Lukashenka delivered his first major address at the meeting of the Supreme Council of the Republic of Belarus, wherein he apprised deputies of his intentions on economic reforms with a special emphasis laid upon the economic and financial situation in Belarus.

Taking into account difficult budget conditions, President Lukashenka *announced his intention to tightly control the budget financial policy*. He promised to take drastic measures in order not to exceed an established budget deficit. Given the lack of opportunities to immediately increase budget receipts, efforts made will be aimed at curbing current expenditures. Under the constrained budget situation, it is also important to ensure that all receipts go directly to the budget, therefore, measures will be taken to improve the efficiency of a tax system.

On the whole, *budget funds must be used more efficiently*. As an example, unbearable subsidies for food, public and transport utilities, and energy directly undermined the budget. The ensuing and inevitable way out is to cut off the subsidies, while providing a reasonable safety net for the most needy segments of the society.

The primary concern of the social policy is to improve the living standards of the majority. The society also has to recognize income diversification to be an inevitable factor of the market economy.

The most important task for the monetary and credit system in the present economic environment is to stabilize the exchange rate of Belarusian rubles, and to decrease the pace of inflation. For that purpose, Belarus will be firmly restricting unsupported money emission.

There is also an urgent need to civilize privatization process that should be regarded as a means of improving industrial activities.

The private sector development will be given a special attention. This process will offset the decline of production in the public sector, add to the efficiency of the economy, and allow to provide jobs for laid-off workers. The state should define "the rules of the game" that will direct private investment flows into production, invigorate private initiative in order to strengthen the state potential and increase export capabilities of Belarus.

In the domain of investment activities, President Lukashenka stressed the need for the largest Belarusian banks to ensure transition from short-term projects to long-term diversified credits not only in rubles, but also in hard currency granted to national enterprises for currency-generating projects.

President Lukashenka also called for a target-oriented foreign policy pursued by Belarus. He emphasized the need to improve cooperation with Russia, the CIS, IMF, and foreign nations. Particular issues in this area will include economic cooperation with all other nations, eliminating trade barriers and re-orienting foreign economic and political activities toward an open unification with the world community. The sporadic character of economic reforms has complicated Belarus' foreign relations with international financial organizations, the IMF in particular. In reality, it is through the IMF that Belarus can make itself attractive for foreign investments and credits. Therefore, there is a need to settle this problem and coordinate market reforms with the fund, taking into consideration state interests of the Belarusian people.

According to President Lukashenka, the key elements of stabilizing the situation and finding a way out of the crisis are a firm political will and a program of emergency measures. Such program has already been initiated. The President promised to appeal to the Supreme Council to hold a special session to consider this program.

President Lukashenka especially emphasized the impossibility of going back to the command and administrative methods of economic regulation. Only economic methods will be employed to spur the economy. The state will provide that property rights are guaranteed and protected.

At the end of the speech, President Alyaxander Lukashenka expressed his hope that various political powers will achieve an accord for the benefit of the people and nation.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**Й. Сірка**

# А ДЕ Ж УКРАЇНСЬКІ ГАЗЕТИ?

Я приїхав на летовище у Києві за дві години до відлету і хотів купити газету на дорогу. У центральному вестибюлі посередині стояв маленький столик завалений газетами. Я не міг знайти з-поміж газет якусь українську, тому запитав ввічливо:

— Скажіть, будь ласка, у вас нема якоїсь української газети?

— Таких мы не продаём. Украинский режет ухо! — відповіла мені невдоволена продавщиця.

— Кому ріже, а кому ні, — зауважив я.

— Ну, всем режет, понимаете? Режет! — з притиском на слові наголосила вона.

— А чому ж ви терпите, зараз є можливість отримати пашпорт і виїхати з країни, — порадив я.

— А вы не показывайте свой национализм! — підняла жінка голос. — Я тоже украинка і вмію розмовляти, — вже кричала вона.

— Звільни, Господи, Україну від таких українців, — сказав я спокійно й відійшов, бо тримаюсь народної мудрости: краще з розумним згубити, ніж з дурним знайти!

Оце вам столиця, і тільки в Україні можете почути отаке про державну мову. Повинен сказати, що зустрів я в Україні багато росіян, які бездоганно знали і розмовляли українською мовою, тому не в росіянах треба шукати причину, а в закомплектованості деяких малоросів, яким рідна мова вже „ріже" вухо.

Питання можна поставити й так: чому після прийняття Закону про державну мову, досі в державних установах, школах та університетах не вживається саме державна українська мова?! Можливо, що саме отой комплекс меншевартости спричиняється до того, що у Києві на кожному розі море російських книжок, а українську треба довгенько шукати. Та і з газетами така ж справа, адже ні на центральному залізничному вокзалі, ні на летовищі не можна купити свіжу українську газету. Російські газети, навіть привезені з Росії, можна придбати в будь-якому кіоску, а українські треба шукати. Вже третій рік незалежности, а газети загальнореспубліканської і цікавої нема. Може б українські політичні організації могли домовитись і замість малих тижневих газет спробували б видавати одну загальнореспубліканську позапартійну щоденну газету, яка б друкувала вісті з усієї України і всього світу.

На пытаньне: – А дзе-ж украінскія газэты? – адказ проста сам просіцца. – Там сама дзе і беларускія газэты!!! Бальшавіцкі чалавек аднолькавы, дзе-б ён ні быў!..

ТРЭБА ДАПАМАГЧЫ ЗАКОНЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ на БЕЛАСТОЧЧЫНЕ!

*ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!*

*Беларускі Музэй у Гайнаўцы, на Беласточчыне, набліжаецца да заканчэньня... За год ці два музэй будзе канчаткова пабудаваны і закончаны... Але цяпер, як ніколі, патрэбная дапамога Беларускае дыяспары... Няхай кожны з нас ахвярúе пасільную суму ад сябе, зьбярэ ахвяраваньні ад суседзяў, прыяцеляў і знаёмых ды ня толькі ад беларусаў, але ад усіх іншых нашых спагаднікаў...*

***Кожны ахвяраваны долар мае сваю вялікую сілу!***

*Просім усе грамадзкія, палітычныя ды царкоўныя арганізацыі прыкласьціся да гэтае сапраўды патрыятычнае беларускае акцыі...*

***Чэкі просім прысылаць на адрас Рэдакцыі з зацемкаю: на Музэй у Гайнаўцы!*** *Усе ахвяры будуць паквітаваныя ў нашай газэце...*

*КАЛІ ЛАСКА ДАПАМАЖЫЦЕ ДОБРАЙ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЕ!!!*

*Далучыцеся да акцыі самі ды заахвоцьце сваіх блізкіх, суседзяў, прыяцеляў ды знаёмых!*

*Дзякуем за дапамогу!!!*

***Ужо атрыманыя першыя ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына.***

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Браніслаў Даніловіч | $50 – |
| 2. | Кляра Кумэйша | $50 – |
| 3. | Др. Марыя Плескач | $50 – |
| 4. | Др. Міхась Жылік | $50 – |
| 5. | Др. Язэп Сажыч | $100 – |
| 6. | Мікола Прускі | $50 – |
| 7. | Людміла Бакуновіч | $20 – |
| 8. | Каця Грынкевіч | $20 – |
| 9. | Васіль Плескач | $20 – |
| | Разам: | $410 – |

Дзякуем! Чакаем далейшых ахвяраў!..

# А ХТО ТАМ ІДЗЕ...

Наша інтэлігенцыя прызвычаілася ўшчуваць паспольства за грамадска-палітычную млявасць, абыякавасць ды злачынную рахманасць, але выбары засведчылі, што народ беларускі, як і належыць быць маладой нацыі, далёкі ад нірваны і на першыя свае свабодныя выбары прыйшоў абіраць не прэзідэнта (Сумленнасць, Годнасць, Прафесіяналізм), а верхаводу-валадара.

Сп.Лукашэнка прывабіў большасць не сваімі абяцанкамі-цацанкамі, а нечым недагаворaным, у якім выразна адчувалася жорсткасць ды непахіснасць. Народ — не мазахіст, але яму патрэбен зараз беларускі Бісмарк або дэ Голь — бацька нацыі, а не ганаровы цівун на пяць гадоў. Аўтарытарны лідэр — гістарычная непазбежнасць, калі мы маем усталяваць трывалую дзяржаўнасць, — хтосьці ж мусіць вырабіць з маргінальна-люмпенскага асяроддзя, да якога ўсе мы сёння належым, цывілізаванае грамадства... Іншая справа, як так сталася, што на ролю бацькі нацыі лучыў чалавек, які, бадай, не мае элементарнага нацыянальна-патрыятычнага пачуцця...

Беларуская дзяржаўна-нацыянальная ідэя маральна перамагла прарасейскі імпер-шавінізм ды тутэйшых камуністаў, але атрымала паразу ў папулісцкіх рыстаннях. Што зробіш, — няма на небасхіле беларушчыны асобы, накшталт Жырыноўскага. Беларускія нацыянальныя партыі месцяцца збольшага ля палітычнага цэнтра, а па баках зеўрае пустэча. Бракуе моцнай нацыянал-папулісцкай партыі, што здолела б кантраляваць левы ды правы радыкалізм. Гэткая сітуацыя проста правакуе з'яўленне на сінявокай Беларусі сярод бульбяных палеткаў дамарослага Пінацэта.

Як ні павернеш, але ўсталяванне на Беларусі ў XX стагоддзі светлай ліберальна-дэмакратычнай будучыні — адкладаецца.

Яно і да лепшага — ліберальна-дэмакратычны рэжым, усталюйся ён зараз, закансерваваў бы цяперашні стан нацыянальна-культурнага нігілізму і ўрэшце ператварыў бы Беларусь у другую Бельгію, — свабодная эканамічная зона, 50 працэнтаў расійцаў, 50 працэнтаў палякаў ды няўлоўны пах зніклых тубыльцаў.

Хоць усё гэта само просіцца пятай дзеяй у купалаўскія «Тутэйшыя» з падзагалоўкам «Незалежнасць. Трагічна-смяшлівыя сцэны», але будзьма спадзявацца на зрухі да лепшага, — першы беларускі прэзідэнт і яго ўрад прывучаць нарэшце беларускую інтэлігенцыю да самастойнасці, і трохі падкарэктуецца яе ўяўленне аб собскім народзе ды эпосе, якое яна не мяняла ад часоў купалаўскага «Мужыка» ды «Ростаняў» Коласа.

**Сяргей ШЫДЛОЎСКІ**
*г. Наваполацк*

"ЛіМ"

## Прэзыдэнт Гавэл – мэцэнат

Прэзыдэнту Чэхіі Гавэлу ў амэрыканскім месьце Філядэльфія быў уручаны каштоўны мэдаль за праводжаньне міралюбнай палітыкі і за вялікі ўклад у галіне культуры.

На прэс-канфэрэнцыі ён заявіў, што адзіны шлях да сусьветнай палітыкі ляжыць ля каранёў культуры. Мэдаль, які атрымаў Гавэл, ацэньваецца ў 100.000 доляраў. Усе гэтыя грошы ён добраахвотна аддае ў фонд культуры для рэканструкцыі Праскага сабору.

# Мазырская соль— лепшая ў свеце?

**По-сапраўднаму насалілі галандскім спецыялістам па выпуску харчовай солі мазыране. Паводле вынікаў незалежнай міжнароднай экспертнай камісіі, мазырская фтарыраваная соль прызнана лепшай на сусветным рынку. Такім чынам, да беларускіх саляшараў перайшла пальма першынства ад галандцаў, прадукт якіх яшчэ да нядаўняга часу лічыўся самым лепшым па якасці і чысціні.**

— Трэці год у Беларусі выпускаецца фтарыраваная соль, — сказаў прафесар Эдуард Мельнічэнка — прэзідэнт Асацыяцыі стаматолагаў рэспублікі. — Старт гэтаму карыснаму пачынанню дала рэспубліканская праграма прафілактыкі карыесу ў насельніцтва. Медыкі лічаць, што, падсольваючы ежу менавіта гэтай соллю, беларусы змогуць зберагчы свае зубы ад многіх напасцей.

Укараніўшы на прадпрыемстве швейцарскую тэхналогію, мазыране асвоілі і выпуск фтарызавана-ёдаванай солі, якая так неабходна беларускаму спажыўцу, бо ў вадзе нашай рэспублікі пастаянна не хапае фтору, ёду і кальцыю, што самым неспрыяльным чынам адбіваецца на стане зубоў насельніцтва.

Але, як заўважыў прафесар, у Беларусі да канца не ўсвядомілі, якім багаццем валодаюць. Гандаль па-ранейшаму робіць мала заявак на пастаўку менавіта гэтай солі ў магазіны рэспублікі, тлумачачы, што ў насельніцтва такі прадукт не карыстаецца попытам. А выпушчаны тавар не залежваецца ў вытворцаў. Вялікія партыі фтарыравана-ёдавай солі пастаянна адпраўляюцца ў Расію, шчодра расплачваюцца за гэты прадукт валютай і палякі.

**Наталля НЕВІДОМАЯ,**
**Белінфарм.**
"Народная Газэта"

Я там ужо быў!

Рис. Е. ВАСІЛЬЕВА.

– Ведаеш, Хведар, калі сустракаю тваю жонку, заўсёды цешуся.
– З чаго-ж ты цешышся?
– Што яна не мая жонка.

# Мільярдны ўчынак "Комплекс-банка"

**Адзін мільярд рублёў ахвяраваў "Комплекс-банк" Рэспубліканскаму дзіцячаму анкагематалагічнаму цэнтру.**

Па словах старшыні праўлення РКБ "Комплекс-банка" Аляксандра Кірнажыцкага, рашэнне было прынята аднагалосна і акцыянерамі, і праўленнем банка. Дагэтуль банк дапамагаў ветэранам, спартсменам, пажарным, дзецям і толькі сёлета пералічыў на дабрачынныя патрэбы больш за 100 мільёнаў рублёў. Але вырашыў змяніць мэтанакіраванасць сваёй дабрачыннасці на карысць чарнобыльскіх дзетак.

Па словах кіраўніка Рэспубліканскага дзіцячага анкагематалагічнага цэнтра Вольгі Алейнікавай, штогод у цэнтр паступае да 200 цяжкахворых. А каб прайсці аднаму дзіцяці курс лячэння ад лейкеміі, патрэбна 150 тысяч нямецкіх марак. Дабрачынная дапамога швейцарскіх, аўстрыйскіх і нямецкіх сяброў не можа пакрыць патрэбы ў тых жа лякарствах. Мільярдны ўзнос "Комплекс-банка" дазволіць хутка закупіць у Германіі 100 флаконаў нейпагену — надзвычай дарагога прэпарата — і выратаваць жыццё чатырох чалавек, што пакутуюць ад апластычных анемій. Хто падтрымае гэты ўчынак? Запомніце рахунак для ахвяраванняў: N 909301 (рублёвы) і N 099101 (валютны), код 734, Мінскае аддзяленне "Комплекс-банка".

**Міхаіл САКАЛОЎ.**

## Курсы валют на 8 жніўня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26500 | 273000 | 16830 | 17350 |
| "Прыор" | 26700 | 27200 | 16900 | 17300 |
| "Дукат" | 26300 | 27200 | 16900 | 17300 |

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018